

ДА 60-годдзя ЎЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ
«НА ПЛОШЧУ ВЫЙШЛІ ШЧАСЛІВЫЯ ЛЮДЗІ» Стар. 2.

ПРАГРАМА «ПРАЛЕСКА» ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ САДЗІКАЎ

СПОРТ. ЗДАРЭННІ Стар. 3.



Максім ГАРЭЦКІ І Янка КУПАЛА: НЕВЯДОМЫЯ ФАКТЫ І ДАКУМЕНТЫ Стар. 4—5.

«КНЯЗЬ-ПІЛІГРЫМ» ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Мікалай КРЫШТОФ РАДЗІВІЛ Стар. 4.



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ
VILLA SOKRATES — ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ Стар. 6.

«ПАКАРАННЕ» АПАВЯДАННЕ Сяргея ТАРАСАВА. Стар. 7—8.


АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

2 верасня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 35

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


СВЯТА ПІСЬМЕНСТВА

## ЧЫТАЦЬ ДЫК ЧЫТАЦЬ, ГУЛЯЦЬ ДЫК ГУЛЯЦЬ

● Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

Нацыянальнае свята — Дзень беларускага пісьменства — сёлета будзе адзначацца ўжо шосты раз. За некалькі гадоў удзельнікі ўрачыстых мерапрыемстваў, прыхільнікі беларускай кнігі павандравалі па полацкай, тураўскай, наваградскай, нясвіжскай ды аршанскай слаўных землях. І *сапраўды слаўных*, бо сваёй непаўторнай прыгажосцю натхнялі на стварэнне лепшых твораў не адно пакаленне пісьменнікаў, выхавалі нямала тых, хто імкнуўся і імкнецца адлюстраваць прыгажосць роднага краю на паперы.

Хаця, калі зыходзіць з такіх крытэрыяў, то ў маладога свята велізарныя перспектывы быць ладжаным штогод з новым месцы. Бо Беларусь багатая і на прыгожыя, утульныя гістарычныя гарады і мястэчкі, і на выдатныя таленты.

Цяпер свята зноў вяртаецца на Палессе. Прымаць гасцей на гэты раз будзе Пінск. Як заўважыў на спецыяльна скліканай з нагоды свята прэс-канферэнцыі кіраўнік аргкамітэта старшыня Дзяржкамітэта па друку Міхаіл Падгайны, Піншчына асацыіруецца са слыннымі сынамі краіны Ф. Філіповічам, Ф. Савічам, Я. Коласам, В. Дунін-Марцінкевічам, М. Гарэцкім і, зразумела, з палескай песнярkай Ягеніяй Янішчыц.

Так, менавіта Пінск абраны арганізатарамі "эпіцэнтрам" урачыстасцей, што па традыцыі пройдуць у першую нядзелю верасня. Але кола мерапрыемстваў не абмяжоўваецца толькі горадам і толькі адным днём. Яны будуць доўжыцца амаль тыдзень. Ужо з 1 верасня па чарнобыльскіх раёнах — Буда-Кашалёўскаму, Добрушскаму, Петрыкаўскаму, Столінскаму — адправіцца навукова-творчая экспедыцыя, якая закончыць свой шлях 5 верасня ў Пінску. У межах экспедыцыі плануецца праводзіць малебны ў мясцовых цэрквах, прапагандаваць беларускую кнігу. Адначасова будуць праходзіць і "Пінскія чытанні". Трэба сказаць, арганізатары з поспехам выкарыстоўваюць папярэднюю практыку, якая аказалася даволі эфектыўнай і атрымала станоўчы водгук у насельніцтва. Яшчэ падчас першага свята на Полаччыне прайшла падобная навукова-творчая экспедыцыя пад назвай "Дарога да святыняў".

Акрамя ўсяго іншага, у гэтыя дні ў школах і іншых навучальных установах, прычым не толькі палескіх, запланаваны семінары, дзе ў цэнтры ўвагі будзе стан сучаснага беларускага пісьменства, кнігадрукавання і прэсы. Чакаюцца творчыя сустрэчы з пісьменнікамі, навукоўцамі, дзеячамі культуры і мастацтва. Бібліятэкі, у сваю чаргу, рыхтуюць спецыялізаваныя выставы. Запланаваны традыцыйныя "Скарынінскія чытанні".

(Заканчэнне на 2-й стар.).




На выставе "Нацыянальныя падручнікі" сёлета прадстаўлены выданні для агульнаадукацыйных школ з беларускай, рускай і польскай мовамі навучання, карты па гісторыі і геаграфіі.

Для дзяцей з асаблівасцямі разумовага развіцця, парушэннямі слыху, зроку падрыхтавана спецыяльная літаратура.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

КАХАННЯ ДЫ ЗГОДЫ!



## Беларуская тэлезорка Ларыса ГРЫБАЛЁВА «куе» сваё сямейнае шчасце.

*(Вясельныя падрабязнасці — на 8-й старонцы).*

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Дарагія суайчыннікі! Вялікае дзякуй за вашу працу. Мы пачалі атрымліваць "Голас Радзімы". Гэта як глыток крынічнай вады для згаладалых па роднай мове, па ўсім, што мы называем Беларуссю.

Па меры сваіх магчымасцей стараемся захоўваць беларускія традыцыі, спяваем нашы песні, падтрымліваем адзін аднаго, уносім пасільны ўклад у развіццё сяброўскіх адносін паміж народамі Расіі і Беларусі.

Ваша (цяпер і наша) газета можа аказаць вялікую дапамогу нашаму зямляцтву і іншым, калі ў ёй будуць друкавацца матэрыялы па гісторыі Беларусі, біяграфіі і творы вядомых беларускіх пісьменнікаў, народныя песні (з нотамі), рэкамендацыі па вывучэнню мовы, народных танцаў.

Загадзя ўдзячныя. Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва.

**Васіль ДАВЫДОЎСКІ,**
**прэзідэнт Архангельскай рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Зямляцтва "Беларусь".**

АНОНС

## «ЕЛЬСК. АЛЯСКАЯ... РОЗА ЛЮКСЕМБУРГ»

У 80-я — пачатку 90-х гадоў я шмат друкаваўся на старонках "Голасу Радзімы". Мая тэматыка — тапаніміка, гісторыя мясцовасці ў геаграфічных назвах. Абноўлены "Голас Радзімы" ўжо заўважылі. Да газеты пацягнуліся чытачы і ў Гомелі. Прапаную рэдакцыі свой артыкул. Прашу надрукаваць яго пад рубрыкай (калі будзе згода) "На карце Беларусі". Мяркую, што тапанімічная тэматыка павінна прысутнічаць на старонках газеты. У сваю чаргу, абяцаю (з вашай згоды) дасылаць матэрыялы пра назвы розных паселішчаў і іншых аб'ектаў на тэрыторыі рэспублікі.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**доктар філалагічных навук.**

НАПЯРЭДАДНІ

## ДОЎГАЧАКАНЫ МУЗЕЙ КІНО

У снежні беларускаму кінематографу "стукне" 75! А хто ведае, што адных толькі поўнаметражных мастацкіх фільмаў на нашай кінастудыі знята амаль 500?! Каму вядома, што першую ў гісторыі беларускага кіно міжнародную ўзнагароду наш фільм "Канцэрт Бетховена" атрымаў аж у 1937 годзе і не дзе-небудзь, а ў Парыжы?! Хто памятае, што фільм Льва Голуба "Дзяўчынка шукае бацьку" (дарэчы, абсалютны "касавы" лідэр савецкага дзіцячага кіно) ішоў у кінапракаце 85 краін свету, а фільмы-казкі Леаніда Нячаева "Прыгоды Бураціна" і "Пра Чырвоную Шапачку" — 91 і 86 краін адпаведна?! Хто ведае, што самая запатрабаваная гледачом наша стужка "Мяне завуць Арлекіна" Валерыя Рыбарава, сабраўшы аўдыторыю амаль 42 мільёны чалавек, увайшла ў сотню самых папулярных савецкіх кінакарцін?! Хто, нарэшце, помніць, што ў стварэнні беларускіх фільмаў удзельнічалі Мікалай Сіманаў, Барыс Бабачкін, Міхаіл Жараў, Самюэль Міхоэлс, Лідзія Смірнова, Ісаак Дунаеўскі, Аркадзь Райкін, Уладзімір Высоцкі і многія-многія іншыя славутыя асобы?!

І вось з'явіўся шанц адрадзіць грамадскую значнасць, моцна папсаваны ў 90-я гады прэстыж нашага кінематографа, рэаніміраваць тое, што складае яго гонар і надзею. І сярод іншага для гэтага ў дні будучых юбілейных мерапрыемстваў мяркуецца адкрыць першую (і па сутнасці галоўную) чаргу Музея беларускага кіно — яго кіназалу.

**І. А.**



ДА 60-годдзя ЎЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ

# «НА ПЛОШЧУ ПРЫЙШЛІ ШЧАСЛІВЫЯ ЛЮДЗІ...»

Заходняя Беларусь пад "апекай" панскай Польшчы знаходзілася 21 год. Мне лёгка ацэньваць і параўноўваць былое і сучаснае, таму што я — сведка тых падзей.

Мне было 12 год, і я прыйшоў раніцай з бацькам з вёскі Верхавусце разам з аднавяскоўцамі сустракаць Чырвоную Армію ў райцэнтр Янава (цяпер Іванава Браэсцкай вобласці).

На плошчы ўжо было людна, многія прыйшлі з транспарантамі, лозунгамі, кветкамі. Калона чырвонаармейцаў на грузавых машынах, бронетранспарцёрах і іншай баявой тэхніцы, якую суправаджалі на невялікай вышыні самалёты, з'явілася ў 11 гадзін 30 мінут. Плошча да гэтага часу была запоўнена да адказу. Гэта было ўражальнае відовішча, лікаванне і радасць прысутныя не стрымлівалі.

Калі калона спынілася, людзі абдымалі салдат і камандзіраў, дарылі кветкі, частавалі беларускім салам, загорнутым у чысцюткія льняныя сурвэткі.

Салдаты дарылі сялянам маршанскую махорку, камандзіры — папіросы "Прыбой" і "Спорт". Мне падарылі зорачку ад фуражкі.

Большасць беларусаў Заходняга краю жыла пры паляках бедна. У моладзі было адзінае культурна-масавае мерапрыемства — на вясковай вуліцы вечарам босымі патанцаваць пад гармонік ды паспяваць хорам. Але часта ў цемнаце ціха з'яўляліся польскія жандары з карабінамі і дубінкамі, якімі збівалі без усялякай прычыны моладзь, не разбіраючы, дзяўчына гэта ці падлетак, і, рагочучы, ад'язджалі. Збірацца больш трох чалавек забаранялася. Ва ўсіх школах заняткі вяліся на польскай мове. У раёне працавала толькі адна сямігодка, астатнія школы — пачатковыя.

Уладам было ўсё роўна, прыйшло дзіця ў 7 год на вучобу ці не. Настаўнік, пан Тунчык, часта беспрычынна даваў "лапу": біў лінейкай па далоні, прымяняў і больш жорсткія "выхаваўчыя" меры. У школу страшна было ісці.

У 1937 годзе польскія ўлады пасадзілі бацьку ў турму. Такім чынам, мы па-свойму таксама перажылі 37-мы год. Калі сям'я з 7 чалавек страціла кармільца, мяне ва ўзросце 10 гадоў аддалі ў пастухі да заможнага селяніна Віктара ў вёску Заруддзе. Мой рабочы дзень цягнуўся 16 гадзін. Калі прыганяў кароў з пашы, гаспадар адпраўляў мяне галоднага, босага, без шапкі ў спякоту акучваць цяпкай бульбу. Я нярэдка страчваў прытомнасць. Кармілі ў асноўным пракіслым малочным супам, бульбай і хлебам. У школе ж нікому не было справы, чаму я не прыйшоў у 4 клас.

Пасля ўз'яднання я змог атрымаць не толькі сярэднюю, але і вышэйшую адукацыю. А раней жа ў заходніх раёнах на пасадах служачых, не кажучы ўжо пра кіруючыя, беларусаў не было.

З вызваленнем у 1939 годзе людзі зажылі зусім па-іншаму, у іх з'явіўся хлеб і да хлеба, у вёскі прыйшлі адукацыя і ахова здароўя, павага да простых вясковых людзей.

Пасля аб'яднання з вёсак нашага раёна выйшла многа ўрачоў, настаўнікаў, афіцэраў, інжынераў і іншых спецыялістаў. Усе кіраўнікі раёна — мясцовыя.

**Уладзімір МАСЮК.**



*Кастрычнік 1939 года. Навагрудак.*



*Верасень 1939 года. Гродна пасля адступлення польскай арміі.*

Багатая экспазіцыя, прысвечаная 60-годдзю далучэння Заходняй Беларусі да БССР, экспануецца ў Гродзенскім абласным краязнаўчым музеі. Яна ўключае прадметы быту 30-х гадоў, фотаздымкі гістарычных падзей 1939 года.

ПРЫВІТАННЕ, ШКОЛА!

## СТВАРАЕЦЦА НЕДЗЯРЖАЎНАЯ ГІМНАЗІЯ

Калегія Міністэрства адукацыі дазволіла стварэнне ў прыгарадзе Мінска недзяржаўнай гімназіі пад назвай "Адраджэнне", дзе навучэнцы змогуць жыць на поўным пансіёне.

Для дзейнасці новай сярэдняй навучальнай установы арандуецца корпус аздараўленчага цэнтра прадпрыемства "Мінскрамбуд" "Спадарожнік", размешчаны ў маляўнічым прадмесці сталіцы — Ждановічах. Вучэбны профіль новай гімназіі будзе вылучаны ў адпаведнасці з адукацыйнымі запытамі дзяцей і іх бацькоў.

Сучасная матэрыяльная база гімназіі дазваляе прапанаваць сталічным і іншагароднім навучэнцам не толькі звычайны пералік адукацыйных паслуг, але і нетрадыцыйныя — кругласутачнае пражыванне, харчаванне і паўнацэнны адпачынак у інтэрнаце, разлічаным на 24 чалавекі.

Пакуль гімназія "Адраджэнне" з'яўляецца адзінай недзяржаўнай сярэдняй навучальнай установай краіны з поўным пансіёнам. Падобная папярэдняя гімназія спыніла сваё існаванне з-за фінансавых цяжкасцей. Зараз у Беларусі дзейнічаюць 14 недзяржаўных сярэдніх навучальных устаноў — па адной у Гомелі, Брэсце і Кобрыне (Брэсцкая вобласць) і 11 — у Мінску.

## ШКОЛЬНЫ КРЭДЫТ

Адразу 30 мільёнаў рублёў змаглі выдаткаваць на абноўкі сыну ці дачцэ да школы клапатлівыя бацькі. І суму гэтую не давялося тэрмінова забіраць з сямейнага бюджэту. Ужо другі год запар "Беларусбанк" прадастаўляе сем'ям, якія маюць дзяцей, крэдыт для падрыхтоўкі дзяцей да новага навучальнага года.

Прадугледжаны выплаты і для студэнтаў ВНУ, вучняў ПТУ і тэхнікумаў дзённай формы навучання, якім не споўнілася 23 гады. Бацькі гэтых маладых людзей могуць разлічваць на суму, якая не перавышае 50 мільёнаў рублёў. Прычым, яе памер будзе залежаць ад даходу сям'і.

Дарэчы, падобны від паслуг карыстаецца ў насельніцтва папулярнасцю. У мінулым годзе, напрыклад, крэдыт атрымалі 5 800 сем'яў.

СВЯТА ПІСЬМЕНСТВА

# ЧЫТАЦЬ ДЫК ЧЫТАЦЬ, ГУЛЯЦЬ ДЫК ГУЛЯЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Характэрнай асаблівасцю сёлетняга святкавання з'яўляецца тое, што ўрачыстасці прысвечаны знамянальнаму юбілею ў айчынным кнігадрукаванні — 470-м угодкам першага Статута Вялікага княства Літоўскага. Улічваючы, што гэта была, па сутнасці, першая афармленая канстытуцыя на тэрыторыі Еўропы, беларусы мусяць годна адзначыць такую дату.

Ну а праграма святкавання 5 верасня ў самім Пінску выглядае наступным чынам:

**8.00—10.00.** Святочнае богаслужэнне ў праваслаўных храмах.

**10.00—12.30.** "Пінскія чытанні" (на базе Рэспубліканскага музея беларускага Палесся). Адкрыццё выставы каліграфіі.

**13.00.** Урачыстае адкрыццё свята на галоўнай плошчы горада:
— мастацка-гістарычнае шэсце;
— урачыстая частка;
— карціны старажытнай культуры.

**14.00—18.00.** Фестываль беларускай прэсы і кнігі (зноў жа на цэнтральнай плошчы):
— фотавыстава "Мая Беларусь";
— прэзентацыя беларускіх перыядычных выданняў і кніг;
— сустрэчы з галоўнымі рэдактарамі газет і часопісаў, з выдаўцамі;
— выставы кніг і прэсы;
— канцэртныя выступленні прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў.

**14.00—17.00.** У дзіцячым парку ладзіцца свята дзіцячай кнігі "Напісанае застаецца":
— сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі;
— збор дабрачыннай бібліятэкі;
— гістарычныя конкурсы, віктарыны, гульні;
— канцэртныя выступленні.

**15.00—18.00.** "Крыніца роднага слова" — фальклорна-этнаграфічная кампазіцыя на ўзбярэжжы ракі Піна. Пінская багатуха, "этнаграфічны музей" пад адкрытым небам, народныя звычаі, абрады, святочныя гулянні, выступленне фальклорных мастацкіх калектываў.

**20.00.** Закрыццё свята, гала-канцэрт з удзелам вядучых мастацкіх калектываў і творчай моладзі краіны.

"Голас Радзімы" таксама збіраецца на свята пісьменства. Спадзяемся пазнаёміцца бліжэй з нашымі ўжо сталымі сябрамі, а таксама знайсці новых.

МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

# У ААН ПЫТАННЕ АБ ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ ЗНЯТА

Беларускія ўлады ўзялі на сябе абавязацельствы правесці ў рэспубліцы шэраг мерапрыемстваў, звязаных з абаронай правоў чалавека.

У прыватнасці, Беларусь мае намер у бліжэйшы час запрасіць спецдакладчыка ААН па забеспячэнню незалежнасці дзейнасці суддзяў, а таксама арганізаваць прыезд у рэспубліку "рабочай групы ААН па адвольных затрыманнях".

Урад рэспублікі мае намер прыняць таксама ўсе неабходныя меры для ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы і далучэння рэспублікі да Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека.

Беларусь выказала гатоўнасць правесці заканадаўчыя рэформы, накіраваныя на ўмацаванне існуючай сістэмы абароны правоў чалавека і дэмакратыі, увесці ў 2000 годзе пост незалежнага амбудсмена і правесці справядлівыя парламенцкія выбары, якія прадугледжваюць роўны доступ кандыдатаў у дэпутаты да дзяржаўных СМІ, адсутнасць цэнзуры і забеспячэнне свабоды сходаў і права на мірныя дэманстрацыі.

У сувязі з прынятымі беларускімі ўладамі на сябе абавязацельствамі падкамісія ААН па заахвочванню і абароне правоў чалавека палічыла магчымым зняць з галасавання праект рэзалюцыі аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

**Пётр РАМАНАЎ.**




Фота БелТА.

**19 жніўня ў Мінску адбылося адкрыццё аўтавакзала еўрапейскага ўзроўню "Маскоўскі". У афіцыйнай цырымоніі прыняў удзел прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей ЛІНГ.**

ПАРТЫІ І РУХІ

**НА 1 ЖНІЎНЯ Ў БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛІ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЮ 8 ПРАЦЭНТАЎ ГРАМАДСКІХ АБ'ЯДНАННЯЎ.** Міністэрствам юстыцыі перарэгістравана 224 грамадскія аб'яднанні, 5 палітычных партый, адзін саюз грамадскіх аб'яднанняў і 34 прафесіянальныя саюзы. Раней, па стану на 1 лютага 1999 года, у рэспубліцы было зарэгістравана 2 502 грамадскія аб'яднанні, з якіх 1 018 мелі статус рэспубліканскіх, а 146 — міжнародных.

Згодна з Дэкрэтам кіраўніка дзяржавы ад 26 студзеня бягучага года, заявы аб перарэгістрацыі палітычных партый, прафесіянальных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў прымаліся Міністэрствам юстыцыі да 1 жніўня 1999 года. У выніку ўсяго па рэспубліцы падалі дакументы на перарэгістрацыю 1 537 грамадскіх аб'яднанняў. З 27 зарэгістраваных палітычных партый падалі дакументы на перарэгістрацыю 19.

На пасяджэннях Рэспубліканскай камісіі па рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў было разгледжана 683 матэрыялы аб перарэгістрацыі. Па 629 з іх унесена заключэнне аб магчымасці рэгістрацыі, 54 грамадскім аб'яднанням у рэгістрацыі адмоўлена.

Як адзначылі ў прэс-службе Мінюста, асноўнай прычынай, па якой значная частка грамадскіх аб'яднанняў не падавала дакументы на перарэгістрацыю, з'явілася тое, што даныя арганізацыі фактычна спынілі сваю дзейнасць.

**Сяргей ЗВЕРАЎ.**



**СПОРТ**

### СЕНСАЦЫЯ МАКСІМА МІРНАГА

Адбылася вельмі прыемная для беларусаў сенсацыя. Яе аўтарам на хардзе ў амерыканскім Індыянапалісе стаў тэнісіст Максім Мірны, які ўпэўнена перамог аднаго з фаварытаў — пасеянага 16-м бразільца Фернанда Мелігені. У на рэдкасць упартым першым сэце беларус выйграў тай-брэйк — 7:5, а ў другім упэўнена давёў матч да перамогі. Цікава, што адлегласць у рэйтынгу АТР паміж Мірным і Мелігені на пачатак тыдня складала 90 прыступак.

### ВАКОЛ НАРАЧЫ ЗА 3 ГАДЗІНЫ 48 ХВІЛІН

Больш за семдзесят чалавек — аматараў бегу выйшлі на старт у Мядзелі, каб па дарозе даўжынёй 61 кіламетр абагнуць Нарачанскія азёры.

33-гадовы выпускнік фізкультурнай акадэміі мінчанін Сяргей Казлоў стаў абсалютным пераможцам з вынікам — 3 гадзіны 48 хвілін!

І не дзіўна: яшчэ дзесяць гадоў назад на міжнародным марафоне ў Маскве ён быў таксама першым. За ім фінішаваў больш малады Ігар Навіцкі, таксама пераможца многіх спаборніцтваў. Трэцім прызёрам стаў Уладзімір Сокалаў са Смаленска. Жалезны характар праявіла Людміла Шабалава з пасёлка Лясное Мінскага раёна: у свае 57 год паспяхова пераадолела ўсю дыстанцыю.

А работніцы з Маладзечна Галіне Кавалёвай не было роўных на 30-кіламетровцы. Дзеці і падлеткі спаборнічалі на 2 і 5 кіламетрах. Турысты з клуба "Аптымаліст" у гэты ж час зрабілі пешы паход па наваколлі запаведніка.

### ПЯЦІБОРАК ЧАКАЕ СІДНЭЙ



Фота БелТА.

Пераможцай у самай прэстыжнай намінацыі — асабістым заліку на чэмпіянаце Еўропы па сучаснаму пяцібор'ю сярод жанчын стала неаднаразовы прызёр Кубка Міру гамяльчанка Жанна ШУБЯНОК. Там жа, у Фінляндыі, яна заваявала права на ўдзел у Алімпійскіх гульнях у Сіднеі, дзе ўпершыню ў гісторыі алімпіяд будзе дэбютаваць жаночае пяцібор'е.

**ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ**

## ДЗЕЦІ — НЕ ГРЫБЫ, АЛЕ РАСТУЦЬ ХУТКА





Сапраўды, дзеці — наша радасць. Маленькія, шустрыя чалавечкі. Колькі добрых пачуццяў выклікаюць яны. Колькі ў іх бадзёрасці, жвавасці, прагі жыцця. Колькі цікавасці ў вачанятах нашых непаўторных хлопчыкаў і дзяўчынак:

— Мамачка, глядзі, які прыгожы галубок!

А галубок — шэранькі, грудка ззяе ўсімі колерамі вясёлкі. Так і хочацца малому пагладзіць яго.

— Мама, — просіць дзяўчынка, — пачакай, вунь якая кветачка.

Рамонак беленькі, чысты, сам так і просіцца ў рукі.

Але ў мамы іншыя клопаты. Маме трэба спяшацца на працу. І пакідае яна сваё дзіцятка выхавальнікам. На цэлы дзень. І цэлы дзень маленькія будуць жыць у дзіцячым садзіку, сярод іншых і ў садзіку нумар 92 Мінскай цеплаэлектрацэнтралі. Там малых і дагледзяць, і розным карысным рэчам навучаць.

— Я задаволеная сваім калектывам, — гаворыць Марыя Чарэпка, загадчыца дзіцячага сада. — Не ўсё ў нас адразу ладзілася, але з часам уладкавалася, стала на свае месцы, у асноўным так, як нам таго хацелася. Стараемся сваім выхаванцам даць веды, неабходнае развіццё — і фізічнае, і духоўнае, увогуле ўяўленне пра дабро і зло на зямлі.

Было вельмі прыемна бачыць маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак, апранутых у святочныя беларускія нацыянальныя строі, такіх акуратных, сцiплых. Хацелася верыць, што з іх вырастуць вартыя грамадзяне Беларусі, тыя, хто паважае нашу краіну разумным шляхам, як кажуць пад, да святла і сонца. І тут вельмі дапамагае выхавальнікам садзіка нядаўна распрацаваная праграма "Пралеска".

— Гэта першая падобная нацыянальная праграма ў Беларусі, — расказала метадыст Лілія Ладуцька. — Лепшыя вучоныя краіны працавалі над яе стварэннем. І ў выніку прадугледжана ўсё, што трэба даць дзецям для паўнацэннага выхавання.

У садзіку працуюць розныя спецыялісты, але асноўны клопат ва ўсіх адзін — прывіць малечы высокае пачуццё чалавечай годнасці, гонару, разумення, што ты — грамадзянін сваёй краіны. А сродкі для гэтага існуюць розныя і, у першую чаргу, дзіцячая творчасць — пастаноўкі спектакляў, абмеркаванні розных тэм. Вельмі прыгожа дзеткі гэтага садзіка святкуюць Гуканне вясны, Купалле, Каляды... Тут яны і звычаі беларускія пазнаюць, і ўсведамляюць сваю беларускасць, адчуваюць сваімі маленькімі сэрцайкамі прыгажосць роднага краю. Любіць родную зямлю, прыроду вучаць ў дзіцячай фальклорнай групе, у музычнай... На прагулках таксама. А двор у садзіку — загядзенне: вакол розныя дрэвы, клумбы, кветкі... Ёсць у садзіку і свой музей, экспанаты якога зроблены ўласнымі рукамі: ад лапцяў да кроснаў. Працуюць гурткі англійскай мовы, тэатральны, іншыя.

Багаты вопыт працы дзіцячага сада № 92, базавага па праграме "Пралеска", шырока выкарыстоўваецца іншымі. Распрацаваны адпаведныя метадычныя рэкамендацыі, некалькі супрацоўнікі садзіка самі ўжо сталі кіраваць іншымі дзіцячымі ўстановамі Мінска.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: загадчыца сада Марыя ЧАРЭПКА; вось так шчыра дзеці віталі нас; Тамара КАЗЛОВА чытае выхаванцам беларускія казкі.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**ЗДАРЭННІ**

### МІЛІЦЫЯ ПАЙШЛА ВА-БАНК І ВЫЙГРАЛА

Падпольны цэнтр азартных гульняў з усімі грашовымі стаўкамі накрылі работнікі магілёўскай міліцыі. Гэту аперацыю глыбокай ноччу (16 жніўня ў 1.30 ночы) паспяхова правялі супрацоўнікі праваахоўных органаў Магілёўскай вобласці. На ігрышча з'язджаліся прадстаўнікі азербайджанскай і в'етнамскай нацыянальнасцяў, якія жывуць у Магілёве і Бабруйску. На гэты раз сабралася аж 25 ігракоў. Усе яны падвергнуты адміністрацыйнаму спагнанню. На кожнага накладзены штраф. Ну а грошы, што былі на ігравым стале, канфіскаваны.

### «БЕЛЫ» ВІР

Некалькі месяцаў назад за збытам гераіну былі затрыманы два жыхары Гродна. Як высветлілася пазней, трапіў наркотык у беларускі горад з Афганістана праз Новасібірск.

На вялікі жаль, рака нарказелля з Сярэдняй Азіі праз Расію і Беларусь ў Еўропу, па ацэнках спецыялістаў, не мялее. Лікяе ахвяр у нашай рэспубліцы вызначаецца чатырохзначнай лічбай.

Аб тым, што Беларусь трапіла ў "перакрыжаванне" наркамафіі, сведчаць лічбы. У мінулым годзе органамі дзяржбяспекі было канфіскавана больш за 160 кілаграмаў наркатычных сродкаў. У тым ліку амаль 20 кілаграмаў гераіну і какаіну, 1 120 доз сінтэтычных наркотыкаў. Разам са службамі шасці дзяржаў прадухілены ўвоз у Беларусь звыш дзвюх тон гашышу. Удалося таксама перакрыць канал дастаўкі атруты з Лацінскай Амерыкі.

### НА ЛАЎЦА І СОМ ПЛЫВЕ

Доўга давялося папацець гомельскаму рыбаку Міхаілу Куксу, каб "утаймаваць" воднае стварэнне: 15-гадовы сом, дастаўлены ім на бераг, важыў каля 50 кілаграмаў, а яго даўжыня склала 182 сантыметры.

Міхаіл Кукса — вядомы ў вобласці прафесіянал. Дзесяць год назад ён узяў у арэнду ўчастак ракі Сож, ачысціў яго, правёў зарыбленне, выканаў іншыя іхціялагічныя мерапрыемствы. Цяпер па прадукцыйнасці яго водным угоддзям няма роўных на Гомельшчыне. Лавіў Міхаіл Цімафеевіч не раз і самоў, але падобны экземпляр узяў упершыню. Летась у яго сетку трапіў велікан, што здаўся памерам з рыбацкую лодку, але тады ён справіцца з ім не здолеў. Парваўшы снасці, рыба знікла ў глыбіні. Відаць, жыве і размнажаецца там і па сёння.

**МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

На гэты раз сустрэча з сялянамі адбылася ў вёсцы Орля, у доме бацькі шафёра Сяргея Андросава, які вёз дэлегацыю ў гарадскі пасёлак. У гасцінным доме бацькі Сяргея — Алега Уладзіміравіча — бяседа доўжылася не адну гадзіну. Канешне ж, як заўсёды ў такіх выпадках, гаспадары не забыліся пра святочны абрус, на якім праз хвіліны ўжо высіліся талеркі з традыцыйнымі сялянскімі пачастункамі. Гаспадары хваляваліся. Такіх гасцей, што прыехалі здалёку, яны, натуральна, не чакалі.

— Мы рады вам, але ці зможам прыняць так, як вы прывыклі, — мовіў гаспадар. — Вельмі ўжо вяльможныя панове.

— Нічога, не хвалюйцеся, дружа. Нам хацелася дaведацца, як вы тут жывяце.

— Усё добра, паночку, як бачыце, і жывём, і трошкі рухаемся, хаця гады бяруць сваё.

— А ці ёсць розніца ў абставінах сённяшняга жыцця і гэта, дапербудовачнага?

— Мабыць цяпер трошкі лепш жывецца: маем свой кавалак зямлі, прыдбалі трактар "Беларусь", кароўка і іншая жыўнасць маецца, а працаваць ад цямна да цямна мы ўжо даўно прывыклі.

— І ніякіх праблем?

— А калі іх не было. Сёння яны тычацца больш майго сына Сяргея, які жыве ў Мінску. Справа ў тым, што ён бізнесмен, і ад гэтага нядобра нават майму ўнуку-шасцікласніку Аляксею. У школе некаторыя вучні ставяцца да яго адмоўна, як да сына заможнага чалавека, багацея. А які ён багацей? Толькі на хлеб зарабляе нетрадыцыйна, не так, як раней.

— Шкада, але, на маю думку, заўсёды патрэбны немалы час, каб людзі зразумелі новыя каштоўнасці. Мы ў Бельгіі прайшлі праз гэта ўжо ў пачатку стагоддзя. Таксама не ўсе і не ўсё адразу ацанілі.

Падчас гэтай размовы Ізабэла Дзю Буа Дэш была даволі сумнай. Не таму, што сустрэча была ёй неспадобы. Яна знаходзілася пад уражаннем папярэдняй сустрэчы з яе бацькоўскім домам у пасёлку Жалудок. Нярадасны настрой навеялі ёй родныя мясціны. Раскіданым гняздом сталася бацькоўская сядзіба. Дзеці раз'ехаліся па свеце, хто цяпер жыве ў Польшчы, хто ў Францыі ці Канадзе, яна ж грамадзянка Бельгіі. Занядбалі прыгожыя раней будынкі. Не жыве ў іх ніхто, нікому не патрэбны сталі, паступова разбураюцца. У былыя пакоі, што ў тое гумно, навалаклі сена невядома для чаго.

— Нават за савецкім часам гэты прыгожы дом быў у добрым стане, — вымавіла пані Ізабэла. — Сядзібе заўсёды патрэбны гаспадар. Добра было б стварыць у гэтым гмаху цэнтр рэабілітацыі хворых дзяцей. На жаль, патрэба ў гэтым на Беларусі немалая.

Часам здараюцца і недарэчнасці. Нашы партнёры з Аўстрыі Марыя Хетцэр і Курт Хюрбэ аднойчы наведалі вёску Яхімаўшчыну, што ў Маладзечанскім раёне. Добры гаспадар Генадзь Бажко паказаў усё лепшае, што ў яго ёсць. Прыемная была сустрэча. Напрыканцы ж адзін з былых кіраўнікоў горада Маладзечна, які там прысутнічаў, прапанаваў заехаць яшчэ і ў горад. Калі мы туды прыехалі, ён не прыдумаў нічога лепшага, як паказаць тыя ў два-тры паверхі катэджы, што ўражліва ўзвышаліся на ўскраіне горада.

— Чый гэта гмах? — запытаў доктар Хюрбэ.

— Кіраўніка сувязі горада.

— А гэты?

— Начальніка чыгункі, а гэта кіраўніка спраў...

— У мяне больш пытанняў няма. Увогуле, для чаго мы сюды прыехалі? Такія дамы не па кішэні нават сярэднезабяспечанаму жыхару Аўстрыі. У такім разе, хто каму павінен дапамагаць?

— Тады паехалі, паглядзім, як мы добраўпарадкавалі стадыён.

— Як хочаце, — без энтузіязму мовілі госці.



*Хлопчыкі з Мадагаскара ў час правядзення на востраве Дзён Беларусі.*

**Арсен ВАНІЦКІ**

## АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

### *Урыўкі з главы «У імя будучага»*

Працяг.

Пачатак у №№ 25—27, 29, 30, 32—33.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ГНЯЗДО БЕЛАРУСКАСЦІ *SOKRATES*

***У Крынках ствараецца своеасаблівы цэнтр беларускай культуры Villa Sokrates. Яе ініцыятар і гаспадар Сакрат ЯНОВІЧ атрымаў нядаўна ў Варшаве “Вясёлкавы лаўр” за пашырэнне талерантнасці.***

**— Спадар Сакрат, віншую з узнагародай.**

— Дзякуй. Я здзіўлены ёю, бо спачатку не ведаў, у чым справа, але мне сказалі, што гэта прызнанне маёй дзейнасці ў напрамку пашырэння тэлерантнасці. Я разумею, што маё значэнне ў гэтым невялікае, але тут справа ў іншым:



у стварэнні тэндэнцыі ў грамадскім жыцці... Вырашальную ролю адыграла нават не мая літаратура, а публіцыстыка ў польскіх газетах і часопісах, такіх, як “Gazeta Wyborcza”, “Wprost”. А яшчэ радуе, што атрымліваю яе ў кампаніі выдатных людзей, як, напрыклад, Аляксандр Малахоўскі, былы маршалак Сейма і вялікі аўтарытэт у грамадска-палітычным жыцці Польшчы.

**— Чым мае быць Villa Sokrates?**

— Тут будзе канцэнтравацца дзеянне, накіраванае на абарону беларускай культуры. Хочам дапамагаць беларускай літаратуры прыжыцца ў Еўропе, дзе пра яе мала ведаюць. Бо няма каму яе папулярызаваць...

**— Як гэта будзе адбывацца на практыцы?**

— Мы — я тут не адзін, але і Лёнік Тарасевіч, і Юрка Хмялеўскі, і іншыя асобы, якія могуць у тым накірунку нешта арганізацыйна зрабіць — маем намер выдаваць перыядычны часопіс, спачатку раз у год. У ім будуць публікавацца тэксты пра беларускую літаратуру і культуру на мовах Еўропы. Для прыкладу, калі прафесар Лонданскага універсітэта Арнольд Макмілін напісаў на англійскай мове эсэ пра прозу Пташнікава, мы яго так і апублікуем, даючы шырокае рэзюме пабеларуску. Або італьянская паэтка Крыстыяна Мольдзі Равена (перакладае аднаго з нашых аўтараў) напісала падобнае эсэ, то мы гэта апублікуем на італьянскай мове, а рэзюме — на англійскай і беларускай. Але Мольдзі Равена таксама паэтка, і мы будзем намагацца перакласці нешта яе на беларускую мову. Гэта такі знак удзячнасці, але не толькі. Нашай стратэгіяй будзе стварэнне, так сказаць, гнёздаў зацікаўлення беларускасцю ў Еўропе. Маем шанц стварыць такое гняздо ў Венецыі, Лондане ці Гановеры. Завязваем сувязі з брэтонскімі аўтарамі.

**— А беларускія аўтары? Ці будзе і для іх у часопісе месца?**

— Людміла Рублеўская напісала вельмі добрае эсэ пра актуальны стан беларускай літаратуры. Мы яго апублікуем не па-беларуску, але на адной з еўрапейскіх моў, каб людзі ў Еўропе змаглі з яго даведацца пра беларускую літаратуру. Трэба, каб інтэлектуальная Еўропа, якая ведае пра беларускую літаратуру з энцыклапедыі, памаленьку ёю зацікаўлівалася... А пераклады на беларускую мову маюць падвойнае значэнне. Па-першае, любому аўтару заўсёды цікава пабачыць пераклад сваіх твораў. А па-другое, такія пераклады ўваходзяць ў субстанцыю беларускай літаратуры, еўрапеізуюць яе. Справа ў тым, каб беларуская літаратура хутчэй набывала еўрапейскі кантэкст. Каб не была павернута ў адзін, усходні бок. Бо культура ўсебаковая.

**— Якія найбліжэйшыя планы?**

— У палове жніўня ладзілі сустрэчу з сімвалічнай назвай — “Трыялог беларускі”. Яе ўдзельнікі — нашы беластоцкія аўтары, пісьменнікі з Беларусі і аўтары з Заходняй Еўропы як трэці бок. Далей усё будзе залежаць ад фінансаў. Наша актыўнасць дабрачынная, бо ні я, ні хто-колечы з маіх калег на гэтым не зарабляе. Грошы патрэбныя на часопіс і сустрэчы...

Дай Бог, каб нам удалося выпускаць раз у год часопіс, якому мы надалі лацінскую назву “Anno Albarutheni”, гэта значыць “Беларускі год”. Лацінская назва не з фанабэрыі, а каб была прачытаная ў Еўропе, каб, калі хто возьме часопіс у рукі, ведаў, на што спадзявацца.

**— Сорак гадоў літаратурнае аб’яднанне “Белавежа” чакала свайго часопіса. Першы нумар “Тэрмапілаў” з’явіўся толькі ў пачатку гэтага года. Ці “Anno Albarutheni” не будзе яму канкурэнтам?**

— Што вы! “Тэрмапілы” — часопіс для беларускіх аўтараў, а наш — для аўтараў еўрапейскіх. Няма між намі ніякіх супярэчнасцей, наадварот, мы будзем дапаўняцца, бо шмат з таго, што публікуюць “Тэрмапілы”, з’явіцца ў нас у перакладзе. Цяпер, напрыклад, адзін перакладчык працуе над дваццаццю вершамі Яна Чыквіна. Мы сваім перыёдыкам як быццам прабіваем акно ў Еўропу...

**— Удачы!**

**Інтэрв’ю ўзяў**
**Мікола ВАЎРАНЮК.**
**(“Ніва”).**

*P. S. Друкуецца ў скарачэнні.*

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# ЗАХАПЛЕННЕ Вальдаса БАНАЙЦІСА

У савецкія часы была магчымасць выпісваць выданні розных рэспублік, каштавала падпіска нядорага, таму і атрымлівала шмат часопісаў і газет, прыходзіла шмат пісем. Вядома, са школьных гадоў выпісвала з Беларусі “Голас Радзімы”, “ЛіМ”, потым “Наша слова”, часопісы “Полымя”, “Алеся”. Зараз гэта зрабіць вельмі дорага.

Напрыканцы 80-х гадоў я пачала атрымліваць лісты ад Вальдаса Банайціса, лісты-запрашэнні на розныя мерапрыемствы. Спачатку неяк было дзіўна: літовец піша па-беларуску. Аднойчы, калі атрымала чарговае запрашэнне на літаратурную вечарыну ў кавярню “Літарату”, вырашыла пайсці. Першая літаратурная імпрэза, прысвечаная Цётцы, якую вёў Вальдас Банайціс, вельмі ўразіла глыбокім веданнем творчасці пісьменніцы. Потым вечарыны прайшлі ў Грыгішках, у Нова-Вільні. У той раз па запрашэнню В. Банайціса ў Нова-Вільню прыязджаў народны тэатр з Маладзечна са спектаклем “Суд Алаізы” па твору Валянціны Коўтун, прысвечанаму 110-й гадавіне з дня нараджэння беларускай паэткі.

Так сталася, што Цётка нейкі час працавала ў шпіталі, дзе доктарам-нарколагам працуе В. Банайціс. Ён жа правёў для жадаючых экскурсію па будынках і парку шпіталя.

Пасля першай сустрэчы я ўжо не прапускала ніводнага мерапрыемства.

А пачалося яго захапленне Беларуссю, як потым распавядаў спадар Банайціс, так. Калі вярнуўся сын з войска, яны разам рушылі ў вандроўку на Віцебшчыну. Іх захапілі прыгожыя краявіды азёрнага краю, але больш за ўсё ўразілі кнігі на беларускай мове, факсімільныя выданні. Яны прывезлі з вандроўкі шмат кніг. Потым В. Банайціс арганізаваў у кнігарнях Вільні аддзелы беларускай кнігі і сам зрабіўся кнiганошам, прывозіў кнігі з Беларусі, часцей з Астраўца і Ашмян. Цікавы быў пачатак 90-х гадоў: нацыянальнае адраджэнне ў Літве, пазней — у Беларусі. В. Банайціс пачаў вывучаць беларускую мову, на галоўпаштамце адшукаў людзей, якія выпісвалі беларускую прэсу, каб мець моўны асяродак, абмяркоўваць літаратурныя творы, падзеі беларускага жыцця. Сярод іх была і я.

З дзяцінства бацькі абудзілі ўва мне любоў да роднай мовы, культуры, гісторыі, і я заўсёды ганарылася сваім нацыянальным паходжаннем. Тады часта ездзілі ў вандроўкі па Беларусі: Вязынка, Ракуцёўшчына, Гродна, Ліда, Навагрудак і шмат разоў Мінск. Не было яшчэ межаў, візаў і іншых перашкод, кожны мог паехаць. Ад усяго гэтага засталіся прыемныя ўспаміны, кнігі, фотаздымкі. Пазней у Вільні пачалі ўзнікаць розныя беларускія суполкі, (першыя — “Сябрына” і “ТБК”), якія аб’ядноўвалі захопленых людзей.

У Вальдаса Банайціса багатая асабістая бібліятэка беларускай літаратуры. Памятаю, як ён радаваўся, калі набыў кнігу “Гербы беларускіх гарадоў”, апошнюю кнігу У. Караткевіча “Быў. Ёсць. Буду”. У яго ёсць дзевяцітомнік пісьменніка, які ён не толькі сам набыў, але дапамагаў гэта зрабіць і іншым. Вальдас Банайціс ніколі не прапускае мерапрыемстваў, што праводзяцца ў Таварыстве беларускай культуры Вільні. Вось такі цікавы чалавек жыве ў Літве, які сочыць за беларускай літаратурай, вывучае гісторыю, любіць паэзію.

**Леакадзія МІЛАШ.**
Вільня, Літва.

**Асноўная прафесія Сяргея ТАРАСАВА — археолаг. Але на Беларусі ён вядомы і як аўтар і вядучы папулярнай краязнаўчай тэлеперадачы “Беларускі дом”. Сяргей Тарасаў займаецца таксама літаратурнай творчасцю. Сёння прапануем увазе чытачоў новае апавяданне аўтара.**

ЁН ПРАЧНУЎСЯ ў халодным поце і з паўгадзіны ляжаў нерухома. Цішыня вялікай пустой кватэры ўсім цяжарам абрынулася на яго. Колькі часу? Ён пацягнуўся да гадзінніка і не адразу намацаў яго. Палова чацвёртай. З хвіліну вагаўся, ці запальваць святло. Потым устаў, накінуў халат, падышоў да акна. Толькі тут пачуў, што на дварэ шуміць дождж. Вецер быццам збіраў кроплі ў жменю і з усяе моцы шпурляў яму ў твар. Але кроплі не даляталі, доўгімі змейкамі спаўзалі па шыбінах. Зноў халодны жнівеньскі дождж. Няўтульна і адзінока. Праз цемру акна ён намагаўся ўбачыць хоць адзіны агеньчык. Дарэмна. Як чорныя хвалі, на вокны наплывала голле, пранізліва гудзеў вецер, сыпаў халодны дождж. “Каб на цябе ліха! — падумалася яму. — Так і звар’яцець можна”.

Праз некаторы час чалавека зноў агарнуў сон...

* * *

...Канец жніўня. Цярусіць халодны заложны дождж. Усюды гразь, вада, шэрасць. Мокрая наскрозь вопратка агіднай вужакай сціскае цела. З кірасы вада струменьчыкам сцякае за каўнер і далей, у самыя боты. Мушкет і палаш, якія так натуральна стасаваліся да ваеннай амуніцыі, сталёвым цяжарам цягнуць долу, заганяюць па самыя шчыкалаткі ў слізкую гліну.

За спінаю грукочуць гарматы Каспара Бекеша, пад якія два дні яны рылі шанцы па загаду самога круля Стэфана. Наперадзе таксама гарматы. Але гэта ўжо чужынскія.

Абараняючы замак, бесперастанна страляюць масквіты. Над галовамі са свістам лётаюць ядры. Нават не зразумееш, дзе свае, а дзе чужынскія. Калі быў маладзейшы і неабстраляны, галава прыгіналася сама сабою. А зараз — які сэнс? Пацэліць можа любое ядро — як сваё, так і чужое. Варта толькі падмокнуць пораху або не разлічыць яго колькасць. Так было неаднойчы. Таму стой і чакай. Будзе загад бегчы — пабяжыш, загад страляць — будзеш страляць. Ад загаду і ад лёсу не ўцячэш. І ўсё-такі...

Лёгка зразумець венгерцаў, немцаў ці тых жа палякаў, што сабраліся пад сценамі гэтай магутнай крэпасці. За ёю — чужы для іх горад з безліччу скарбаў і багаццяў. Немцам круль плаціць адразу. За добрыя грошы, з выключным педантызмам яны проста працуюць у залежнасці ад вартасці работы. Стэфан наабяцаў ім золата, якое яны самі здабудуць уласнай адвагай. Маўляў, што ў рукі трапіць, тое і ваша. Нездарма па некалькі разоў на дзень, нягледзячы на непагадзь, як дзікія звяры, кідаюцца на прыступ. Вялікія нясуць страты, але вераць, што жывым дастанецца большая доля.

Палякі — тыя ў агонь за сваім крулем. Хоць і золату адведзена не апошняя роля. І ўсё ж найперш — гонар, вяртанне спрадвечных зямель і гарадоў, якія цягнуцца ад Варшавы да Масквы, а можа, хто ведае, і далей. Ніколі не даруюць палякі ўдалых лівонскіх паходаў рускаму цару.

А што робім мы тут абозам літоўскім? Што і астатнія — ваюем. Пад штандарам ваяводы Віленскага, яго млосці пана Мікалая Радзівіла і сына яго Хрыстафора сабралася многа харугваў. Тут і адборныя вершнікі пана Івана Хацкевіча і пана Івана Глябовіча, кашталяна менскага. І пешыя, і конныя, і гарматныя нарады. Мы таксама ваюем. За сваё, спрадвечнае. Вось толькі дзіўна, чаму там, за сценамі, разам з гарнізонамі рускага цара стаяць свае, ліцвіны, і не даюць горад? Неаднойчы бачылі на сценах нават жанчын, што дапамагалі абаронцам кідаць бярвенні і ліць гарачую смалу. Няўжо крывавы Іван ім бліжэйшы? Мо таму, што ў большасці яны праваслаўныя? Але і я праваслаўны. Усе ведаюць, як лагодна адносіцца круль Стэфан да “схізматыкаў”. Чаму яны не жадаюць нашага вызвалення?

Быццам і свае там за сценамі крэпасці, і ўсё ж... Будзе загад — і я страляць буду.

Колькі ж можна стаяць у вадзе і чакаць?

Нарэшце гарматы Бекеша змоўклі. Вось зноў рушылі венгерцы. Так, за імі — наша чарга... Як цяжка выцягваць з гліны боты! Рушніца — стрэл, порах, кулю ў ствол — стрэл. Хутчэй, хутчэй, толькі наперад, толькі б не адстаць... Грамадою яно заўсёды лягчэй... Стрэл — кулю ў...

Сполахі — з-пад ног. Вочы засціла чырванню. Нешта слізкае прыліпла да скроні, а ў бок быццам уторкнуўся сук. Балюча...

Божа! Якая цішыня!.. Але што гэта?

Ён цяжка расплюшчыў вочы. З шэрага неба лілася вада. Дождж. Халодны, жнівеньскі, які працінае да костак...

* * *

Ён застагнаў. Галава з боку на бок замітусілася на падушцы, і ён зноў прачнуўся. З жахам сеў на ложку, страсянуў галавою, зганяючы рэшту прывідаў.

Так праходзіла каторая ўжо ноч. Але ніводнага разу нішто не паўтаралася. Зірнуў на гадзіннік. Шэсць раніцы. Падняўся, прайшоўся па пакоі. Што адбываецца? Можа, пайсці да доктара? З таго часу, як жонку з дзецьмі выправіў на поўдзень, ніводная ноч не праходзіла спакойна, без сноў. Самае страшнае, што адчуваліся яны да дробязей натуральна, у колерах і гуках. І да гэтага часу ён фізічна адчувае, як цяжкі двуручны меч рассякае наўскос яго цела, як падбіраецца і ліжа пяткі пякельны езуіцкі агонь, як з крыкам “shaise” вылятае з-пад ног выбіты каваным ботам табурэт, і вялікі барвовы сполах над горадам, паходжанне якога ён не мог зразумець, ужо не ідзе ўздоўж вуліцы, а стаіць чорным адбіткам, ценем на цаглінах нейкага дома. Усё звышнатуральна і ненатуральна.

“Здароўе выдатнае, трохі падгулялі нервы. Адпачніце”, — параіў доктар.

“Лёгка сказаць — адпачніце”, — падумалася яму. А што, прабачце, ён робіць, як не адпачывае? Дакладней, спрабуе гэта рабіць вось ужо амаль тыдзень!

Ён прайшоў у кабінет. Вялікі стол, кульман, планшэты. На сценах развешаны планы і праекты: дамы, кварталы, цэлыя гарады. Гэта яго праца, яго творчасць. Пасада галоўнага архітэктара буйнога горада — адказная і клопатная справа. Зараз ён мае ўсё, што можа пажадаць чалавек на гэтай зямлі. З ім лічацца, да яго думкі прыслухоўваюцца, з ім шукаюць сяброўства. Але ўсё прыйшло не адразу...

Вось тут, у куце, вісіць праект



**Сяргей ТАРАСАЎ**

# ПАКАРАННЕ

## АПАВЯДАННЕ

яго першага пабудаванага дома. Каб паставіць яго, давялося тое-сёе разбурыць. Ох, які тады падняўся лямант! Пісалі на яго пісьмы, скаргі, шукалі недахопаў у праекце, ледзь не на дэманстрацыі выходзілі, калі пачалі рушыць некалькі тых дарэвалюцыйных развалюх. Дзеля чаго? Ён жа дакладна абгрунтаваў, што тая старэча толькі псуе знешні выгляд горада, а мы будуем новае жыццё, у якім новы чалавек павінен карыстацца ўсімі выгодамі новай культуры. Колькі можна цягнуць за сабою гэты цяжар царскай спадчыны? Што яна давала? Жыць у тых развалюхах людзі не хацелі, а рэканструяваць іх — даражэй, чым будаваць новыя дамы. Вядома, недахопы ў тым праекце былі. Але зараз гэта ўжо не мае значэння, бо, дарэчы, няма і таго дома. На яго месцы ён паставіў прыгожы Палац культуры. Гарлапаны сціхлі, і перад ім адкрылася шырокая перспектыва творчай дзейнасці.

Ён ганарыўся сваёй работай. Не кожнаму здаралася ўвасобіць у жыццё так многа сваіх задум, так упрыгожыць, фактычна перабудаваць цэлы горад. За свае архітэктарскае жыццё ён зразумеў адну ісціну: каб пакінуць па сабе след, каб твае дамы сталі помнікам, іх павінна бачыць як мага большая колькасць людзей. А таму яны павінны стаяць у цэнтры, навідавоку. Могуць быць і памылкі, і недакладнасці, і адсутнасць гармоніі, але з цягам часу з імі звыкаюцца, і яны як бы знікаюць. Іх перастаюць заўважаць. Недахопы становяцца вартасцямі. Праўда, некаторым хацелася зрабіць акцэнт на яго недахопах, на знішчэнні развалюх, якія яны называлі "помнікамі архітэктуры". Але было позна: ён стаў недасягальным, модным і вялікім архітэктарам. Гаспадары прэстыжных мяккіх кабінетаў сустракалі яго з пашанаю, па-сяброўску прасілі зрабіць невялічкія праекты "паляўнічых хатак" альбо ўтульных "гнёздаў" для адпачынку на дзікай прыродзе. Ён нікому не адмаўляў, хоць, зразумела, не ўсё рабіў сам, але праекты лічыліся ад яго.

За свае заслугі і паслугі атрымаў адпаведную пасаду і вольныя рукі. Вось тады і разгарнуўся па-сапраўднаму яго талент. Усё, што перашкаджала на яго шляху, — знесці. Зносіліся рассаднікі рэлігійнага дурману, старыя дамы і гасцініцы, высякаліся скверы і паркі, на месцы якіх рабіліся прыгожыя спартыўныя комплексы. У здаровым целе — здаровы дух! Даеш! Даеш! Даеш! І ён даваў... Ах, які то быў час! І раптам...

* * *

... Крыжакі ўжо блізка. Пад цяжкім тупатам закаваных у жалеза коней пагойдваецца зямля. Не гледзячы, інтуітыўна, каторы ўжо раз абмацаў калчан. Стрэлы на месцы. Зірнуў у адзін бок, у другі — напружаныя твары, нядобрыя, але спакойныя вочы, збялелыя, сцятыя вусны.

Цішыня. Толькі тупат. Бліжэй і бліжэй. З раніцы, быццам у прадчуванні бітвы, пачаў уздымацца вецер. І вось ужо нагнаў шэрыя хмары. Як яны недарэчы! А можа, гэта і добра: і без сонца зараз будзе спёка.

...Зноў свіння. Колькі ўжо разоў сустракаліся з ёю твар у твар, а яна ўсё па-свойму, па-свінску. Куды гэты раз кіруе свой лыч? Д'ябла што ўбачаць крыжакі па баках, нават коням на морду пачапілі засланкі, каб не кідаліся ўбокі.

Куды гэта яна кіруецца? Кожны ведае: дзе паверне — там і смерць. Толькі мала тут тых, хто ні разу не глядзеў ёй у вочы. Жыццё — смерць — жыццё. Так чалавеку наканавана Богам. Але жыццё...

Паварочваецца на нас. Тупат падобны на грукат падаючага камення. Стрэлы самі кладуцца на лукі і павольна ўздымаюцца ўгору... Гэта апошнія хвіліны. Вопытныя воі ведаюць: дзве стралы ў першым радзе не выпусціш — не паспееш. Трэба пацэліць першай. Але куды? Вершнік поўнасцю закаваны ў жалеза, толькі маленькія шчыліны на шаломах для вачэй. Вось каб патрапіць у гэту шчыліну!

Свіння, але ашчэрылася, быццам вожык. Ну, то зараз атрымаеш! Вось хоць гэты, у белай накідцы з чорным крыжам і каляровым пер'ем на шаломе... Галоўнае не спяшацца, хай падыдзе бліжэй...

Мы ўжо бачым адзін аднаго: ён — першы там, я — першы тут. За яго спінаю шалёны нястрымны паток, грукат цяжкіх капытоў, спаленыя гарады і вёскі, сотні забітых і параненых. За маёю — напружаная цішыня і чаканне.

Грукат раскалыхаў цішыню. Імгненне — і вострае жалеза з рыпучым хрустам разрывае каваную кальчугу, рассякае скураную сукенку і мякка ўпіваецца ў цёплае цела. Наскрозь. Апошні ўздых... Толькі вочы яшчэ бачаць, як страла, сарваўшыся з цецівы, з віскам праціне вузкую шчыліну ў жалезным шаломе...

Вершнік выпускае кап'ё і повад, павольна спаўзае долу...

Сышліся хмары, грымнуў гром. Першыя буйныя кроплі жнівеньскага дажджу ўпалі на халоднае жалеза...

* * *

...Раптам усё пачало мяняцца. Нават цяжка сказаць, што паспрыяла пачатку. Чамусьці загаварылі аб асяроддзі, экалогіі, культурнай спадчыне. Гаварылі і раней. Ён і сам "на ўра" прачытаў некалькі лекцый на розных узроўнях. І гэта ўспрымалася нармальна. Гаварыць — гаварылі, але і справу рабіць не забываліся. Думалі адно, гаварылі другое, а рабілі — трэцяе. Але трыадзінства пачало мяняцца, і ён адчуў гэта адным з першых.

Пачалося з дробязі. Пад чарговы распрацаваны праект знеслі былыя манастырскія келлі. Царкву і манастыр знеслі раней. Усё было як звычайна. Але раптам, як і трыццаць гадоў назад, пасыпаліся пісьмы, скаргі, і яму ў вышэйшых інстанцыях давялося выслухаць непрыемныя словы. Раілі быць больш прадбачлівым. Ён паабяцаў. Але ж слова не верабей, выпусціў, а потым дакажы, што яно тваё. Думаў, пабаліць — ды і адпусціць. Не адпусціла...

Распрацаваць праект новага палаца далі, вядома, яму. Усё зрабіў як належыць: з фантанамі, галерэямі, калонамі... Атрымалася грандыёзна. Гэта быў яго самы вялікі праект. Тут, у гэтым кабінеце, сядзеў удзень і ўначы. Схуднеў, асунуўся, але зрабіў у тэрмін. І самому было прыемна адчуваць вартасць свайго таленту, сваёй працаздольнасці. Праект падтрымалі, калі не лічыць некаторых дробязей. Але паступова ўсё пачало неяк пераварочвацца з ног на галаву.

Прайшло літаральна з паўгода, як сталі раздавацца галасы, што такі праект варта было б абмеркаваць усенародна, а мо нават і аб'явіць конкурс. Што і было зроблена.

Гэта занепакоіла. Ён кідаўся з аднаго кабінета ў другі, але ўсюды разводзілі рукамі. Са сваім праектам ён застаўся адзін. А праз нейкі час была выстава-абмеркаванне прадстаўленых на конкурс работ. Ён доўга вагаўся, але ўсё ж пайшоў глядзець. Як прафесіянал, у глыбіні душы вымушаны быў прызнаць, што некаторыя праекты былі лепшыя за яго. Але больш за ўсё ўразілі запісы ў кнізе водгукаў адносна яго праекта: "гігантаманія", "адсутнасць элементарнага густу", "бязглуздзіцы". Гэта быў удар. Такога не чакаў не толькі ён, але і тыя, хто яго падтрымліваў.

Штосьці надламалася і пакацілася ўніз. Да яго прапаноў, думкі пачалі ставіцца асцярожна. А потым і ўвогуле намякнулі, што час яго прайшоў, што на яго рахунку і так шмат такога, што з гадамі цяжка будзе растлумачыць нашчадкам... Ці ж яго ў гэтым віна? Жыў, вучыўся, працаваў. Як мог, як патрабаваў час. Дарэчы, час...

Ён ніколі не бачыў сваіх сноў да канца. Кожны раз кашмар спыняўся там, дзе ён як чалавек пераставаў існаваць. І не раней. Ён разумеў, што гэта толькі сон, але прачнуцца раней не мог. У сне ён павінен быў загінуць і часцей за ўсё — гераічна, зрабіўшы нешта добрае для людзей, для чалавецтва. У снах ён ніколі не шкадаваў сябе, і гэта было так пакутліва і нясцерпна, што ўдзень ён не жыў, а існаваў.

Прайшоў тыдзень, другі. Хутка трэба было выходзіць на працу. Ад яго чакалі праекта сусветнай велічыні і значнасці, які як сімвал моды і неўміручасці будзе адзіны ў краіне. А можа, і ў свеце. А ў яго нічога не было...

* * *

Ён стаяў пасярод кабінета, паварочваючыся то ў адзін, то ў другі бок. Сцяна, сцяна — акно. Вось тут, на правай сцяне, павінны быць знакамітыя помнікі архітэктуры. Але што гэта? Раптам малюнкі ажылі — усе разам, і кожны паасобку. Яны сталі натуральна каляровымі, аб'ёмнымі, як у галаграфіі. Вось Парыж, Эйфелева вежа. Зламалася адна апора, другая. Спічастая канструкцыя нахілілася і пачала паступова валіцца. Не далятаючы да зямлі, паасобныя блокі выпадалі, і вежа пачала нагадваць вялізнага павука, доўгія ногі якога, шырока раскінуўшыся па зямлі, уздрыгвалі ў перадсмяротнай агоніі.

Лондан. Таўэр. З вежаў, што стаяць па кутах, як гарох, пасыпаліся цагліны і каменныя блокі. Яны неяк дзіўна разбураліся знізу, і ўвесь замак быццам прысядаў, рабіўся ўсё ніжэйшы і ніжэйшы, пакуль не ператварыўся ў суцэльную гару друзу.

Каір, піраміды фараонаў у Гізе. Магутны вецер змятаў, пачынаючы з вяршынь, адзін каменны бок за другім, з усіх пірамід адразу. Хутка навакольная пустэльня стала падобнай на вялізную дзіцячую пляцоўку, па якой раскіданы безліч невялікіх кубікаў.

Кіеў, Сафія. Старажытны храм белай птушкай узняўся ў паветры і адразу ж апусціўся на зямлю, як разбітая бочка, з якой зляцелі абручы і разляцеліся клёпкі.

Другая сцяна, трэцяя — усюды адно і тое ж. Рушылася ўсё, акрамя таго, што... праектаваў і будаваў ён САМ.

Ён ліхаманкава круціўся на месцы, але ўсюды бачыў толькі руіны. Жахлівая карціна сусветнай пустэчы запоўніла пакой. У ёй раслі, павялічваліся ў памерах ЯГО дамы, ЯГО палацы, ЯГО помнікі. Яны сыходзіліся разам і трэсліся ў бязгучным рогаце. А ён, як вар'ят, круціўся на месцы, махаючы рукамі: "Не, не, не! Не хачу! Не жадаю!"

Чалавек млява асунуўся на падлогу.

* * *

Дзверы турэмнай камеры тужліва зарыпелі, і ў праёме, асветленым хісткім ліхтарыкам, з'явілася цыбатая постаць. Крокі каваных ботаў металічным рэхам аддаваліся ў напружанай цішыні.

Яго скаланула. Ён падхапіўся, сеў, звесіўшы ногі з голага ложка. Галава гудзела. Зноў на допыт?

— Устаць! — гаркнуў жандар, адчыніўшы дзверы.

Ён пакутліва ўстаў, унурыўшы галаву. На парозе стаяў афіцэр.

— Прачнуліся, пан бунтаўшчык? Ну, як сябе пачуваеце ў нашым "гатэлі"? Ці падабаецца абслуга? — жандар сеў, закінуўшы нагу за нагу, дастаў пачак цыгарэт. — Курыце, — працягнуў яму.

Ён маўчаў. Папяросны агеньчык дрыготка скакаў у руцэ.

— Сядайце, — змілаваўся жандар. — Я разумею вашу высакародную маўклівасць. Да гэтага вас вымушае пачуццё гонару, таварыскасці. Дарэчы, я і не збіраюся іх парушаць. Але зараз вы дзяржаўны злачынец, які падняў руку супроць моцы, якая завецца "імперыя". І яна вас зміла са свайго шляху. Ці не так? Тыя мужыкі, якіх вы адарвалі ад працы, і іх галазадыя правадыры, накшталт Каліноўскага, — людзі не вышэйшага кола, хоць і ўмеюць прыгожа гаварыць, а яшчэ лепш — пісаць. Але як вы, разумны чалавек, маглі ім паверыць?

— Гэта не ваша справа, — ад тытунёвага дыму ён цяжка закашляўся.

— Слушна. Але, на жаль, іронія лёсу: гэта — "ваша справа", і ляжыць яна на маім стале. Між іншым, ад вас залежыць, як і калі будзе скончана... Мінімум пакарання вы сабе забяспечылі — турма або Сібір. А за максімум трэба яшчэ хадайнічаць. Спадзяюся, наш высокі суд не адмовіць. Ці, можа, вы хочаце трапіць на адну шыбеніцу з мужыкамі? Цікавае будзе відовішча, магу вас запэўніць. Я не палохаю, крый Божа. Хіба запалохаеш тых, хто з косамі супроць гармат ваюе? Але я звяртаюся да вашага дваранскага гонару, да добрага імя вашага роду. На вашым месцы...

— Магу саступіць...

— Дзякуй, буду мець на ўвазе. Дык вось, на вашым месцы я падумаў бы не толькі пра сябе. Малады ўзрост — сталы эгаізм. Паразважайце, што чакае вашых сясцёр, не кажучы пра бацькоў...

— Пры чым тут яны?!

— Дарагі мой, усе ў гэтым свеце звязаны адзіным ланцужком. Яны будуць сваякамі дзяржаўнага злачынцы, а гэта — на ўсё жыццё. Такім чынам, вы робіце шкоду не дзяржаве, не нам і нават не сабе, а ў першую чаргу ім — хочаце таго ці не. Здаецца, я бачу ход вашых думак. Вы шукаеце выйсця. Ці не так?

— Так.

— Але гэта выйсце не толькі з-за кратаў. Вы павінны разумець. Гэта вяртанне ў жыццё звычайнае, нармальнае чалавечае жыццё, якога вы ў свае 18 год, уласна кажучы, не бачылі.

— І чаго гэта будзе каштаваць?

— О, я бачу, у вас з'явілася цікавасць да жыцця. Нічога. Сапраўды, нічога. Вам не прыйдзецца нікога выдаваць з таварышаў, рабіць даносы і іншыя паскудствы. Проста раскажыце пра сябе. Усё. Ад пачатку і да канца: дзе былі, што рабілі ці збіраліся рабіць, з кім сустракаліся, каго ведалі. Зразумела, праўду. Хлусню мы ведаем і самі. Акрамя таго, нас асабліва цікавяць некаторыя дробязі і абставіны, якія, спадзяюся, не выключаць з вашага боку асаблівых цяжкасцей. І, што галоўнае, — вы застанецеся чыстым, высакародным чалавекам, зможаце жыць у імя нашай магутнай дзяржавы. Між намі кажучы, усе мы ў маладосці нейкім чынам бунтавалі. Я таксама не выключэнне. Толькі зараз усвядоміў, што гэта агульначалавечы закон, які абумоўлены недахопам маладосці ў ведах і ладзе жыцця. Усё мяняецца, як казалі старажытныя філосафы. Ну, дык як?

Жандар праціраў шкельцы пенснэ, пазіраючы на згорбленага чалавека сваімі маленькімі вочкамі.

— Рашайцеся, малады чалавек. Другі раз такой нагоды не будзе. Ну?

— Я згодны, — ледзь чутна вымавілі перасмаглыя губы.

— Чую словы разумнага чалавека. Вы будзеце жыць. Гэта прыемна. Хутка вы ўсё забудзеце, як дурны сон. Вунь гляньце, нават сонца зазірнула ў вашы апартаменты. Гэта добры знак вашага лёсу...

* * *

Раніцай ён прачнуўся на падлозе свайго кабінета. Першыя жнівеньскія сонечныя промні палосамі расфарбавалі сцены. На вуліцы было ціха і спакойна. Ён падышоў да стала. Узяў чысты аркуш паперы, ручку. Пасярэдзіне ліста вялікімі, амаль друкаванымі літарамі вывеў: "Заява". Ніжэй пачаў пісаць: "Прашу звольніць..."

Зазваніў тэлефон. Ён зняў трубку, прыклаў да вуха.

— Алё! Здароў, стары! Спіш? З цябе пляшка! За што? За добрую вестку. Нават не пляшка, а цэлая скрынка! Што? З павышэннем віншую! Якім? Угору пайшоў. Учора зацвердзілі на новую пасаду ў сталіцу. Глядзі, не забывай старых сяброў! Ну, будзь!..

Цішыня пасля навальніцы была падобная на мяккую стрыманасць бабінага лета. Неўзабаве за восенню надыдзе і зіма. Ужо хутка...

ЛЮБОЎ ДЫ ЛАД: ПАПУЛЯРНАЯ ВЯДУЧАЯ ЗАБАЎЛЯЛЬНЫХ ТЭЛЕПЕРАДАЧ УЗЯЛА ШЛЮБ



# ВЯСЕЛЛЕ Ларысы ГРЫБАЛЁВАЙ

Гэтая падзея стала важнай не толькі ў жыцці Ларысы. Яна выклікала цікавасць у шматлікіх прыхільнікаў тэлеперадачы "Усё нармальна, мама", асабліва ў моладзі. Інтарэс быў падагрэты прэсай. Пару месяцаў таму адна з газет так далікатненька-цьмяненька паведаміла, што Грыбалёва... выйшла замуж. І здымак надрукавала: на ім Ларыса ў шлюбным уборы, а побач высокі малады чалавек.

Калі пасля сапраўднага вяселля я згадаў гэты выпадак, Ларыса засмяялася:

— А было так: у кінафільме "Смерць і крыху любові" я выконвала ролю нявесты. Адзін з кадраў неяк трапіў у рэдакцыю, ён і аказаўся на старонцы газеты.

— Атрымалася ў пэўнай ступені сімвалічна.

— Відаць, так. Мы ж з Сашам ужо рыхтаваліся да вяселля.

Здымалася Л. Грыбалёва і ў іншых фільмах. У прыватнасці — у музычнай камедыі "Прывітанне ад Чарлі Трубача". Аднак найбольш вядомая Ларыса як вядучая беларускай тэлеперадачы "Усё нармальна, мама". Гэта забаўляльная музычная праграма для моладзі. Песні, музыка, танцы чаргуюцца ў ёй з жартамі, каламбурамі вядучай.

— Скажыце, — спытаў я, — адкуль яны бяруцца ў вас? Самі складаеце ці нехта піша іх?

— Кожны павінен займацца сваёй справай. Пісьменнікі — пісаць, артысты — увасабляць напісанае. Хаця імправізацыю на сцэне, на тэлеэкране я не цураюся. Тэксты мне пішуць Ігар Калінкоў, Міхаіл Тамковіч і члены каманды клуба вясёлых і знаходлівых "ЧП".

А песні, якія я спяваю, у асноўным віцябляніна Валерыя Дамарацкага. Менавіта ён вывеў мяне ў людзі — на мой першы фестываль у Маладзечне.



Ларыса Грыбалёва скончыла педінстытут у родным Віцебску, пасля — Беларускі універсітэт культуры. На фестывалі "Маладзечна-94" заняла другое месца ў конкурсе маладых выканаўцаў. Песні "Кошка" і "Алёшкіна каханне" спадабаліся Міхаілу Фінбергу, прафесару, народнаму артысту, кіраўніку вядомага ў свеце канцэртнага аркестра Беларусі. Міхаіл Якаўлевіч прапанаваў Ларысе стаць салісткай у яго калектыве. Яна і цяпер задаволена і кіраўніком аркестра, і калектывам.

— У ім, — расказала Грыбалёва, — усе прафесіяналы, таленавітыя музыканты. Як гаворыцца, з паўслова разумеюць адзін аднаго. І Міхаіл Якаўлевіч таленавіты і добры чалавек. Ён заўсёды гатовы дапамагчы. І мне памагаў неаднойчы.

У Ларысы шмат клопатаў, шмат работы. Здымкі ў кінафільмах, выступленні ў канцэртах, роля вядучай у перадачах "Усё нармальна, мама" на БТ і "Ранішняя пошта" на першым канале расійскага тэлебачання. У расійскай сталіцы яна бывае на запісах па два разы на месяц.



Вось такая яна, Ларыса Грыбалёва, — вясёлая, энергічная. І на сваім вяселлі заставалася такой жа. Зарэгістравалі шлюб маладыя ў Траецкім прадмесці — старажытным кутку Мінска. Тут іх шчыра віталі родныя, блізкія, сябры. Іграла музыка, гучалі песні. Пасля накіраваліся ў Дудуткі.



Дудуткі — адна з цудоўных беларускіх мясцін. У гэтай вёсачцы на беразе ракі Пціч нібы спецыяльна сабраліся і захаваліся розныя даўнія пабудовы. І ехаць туды недалёка — нейкіх сорак кіламетраў. Затое задавальнення атрымаеш удосталь. Млыны — вадзяны і ветраны, шынок, карчма, коні, вазы, палі, лугі, паляны... У Дудутках праводзяцца шматлікія мастацкія і фальклорныя святы, нярэдка з удзелам вядомых у рэспубліцы людзей, гасцей з замежжа. Тут нават папярэдні пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс, зняўшы абутак, аднойчы кінулася ў скокі.

Вяселле Ларысы Грыбалёвай прайшло незабыўна для многіх. Бацькі, самі маладыя пастараліся. Было ўсё: і забавы, і стравы беларускай нацыянальнай кухні, і розныя напоі... А таксама лазня, начлег на сене ў адрыне. Наладжваліся арыгінальныя гульні, дэманстраваліся сёння ўжо экзатычныя прылады, тэхніка, у тым ліку аўтамабіль, які італьянскі хацелі набыць за вялікія грошы, але ім адмовілі.

А нявеста красавала ў шыкоўным уборы, які ёй ахвяраваў салон вясельнай моды АРТ — "Подиум". Зрэшты, вы самі можаце ўбачыць усё гэта на фотаздымках. Мужам Ларысы стаў прафесійны фатограф, студэнт чацвёртага курса факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Аляксандр.

Што ж далей, якія планы?

— Рыхтую з Міхаілам Якаўлевічам мой персанальны канцэрт, аўдыёкасету са сваімі песнямі. І па-ранейшаму буду весці забаўляльныя тэлеперадачы ў Мінску і Маскве.

А ці ёсць у Ларысы звычайныя жаночыя захапленні?

— А як жа: вяжу розныя адзежкі. Збіраю капялюшыкі.

— Капялюшыкі? Якія?

— Вядома, жаночыя. А пачала з бабулінага. І ў першай праграме "Усё нармальна, мама" здымалася менавіта ў ім. Каб вы бачылі, як бабуля радавалася!

У Дудутках Ларыса і Аляксандр малаткамі сімвалічна кавалі сваё шчасце. Няхай яно будзе светлым і доўгім!

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: вясельныя кадры з сямейнага альбома маладых.





## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Ганна КАШУБА**

* * *

Рассакрэчу мары толькі ветру,
А сумненні выкажу дажджу,
І цяплу асенняму паверу,
Аб пачуццях лесу раскажу.

І душу прад ім адкрыю насцеж —
Хай знямее ці няхай крычыць,
Толькі б мне ад гора не упасці,
Ды прырода ўмее палячыць —

Забярэ трывогі і нягоды,
І запаліць добры бляск вачэй,
Прывядзе і думкі ўсе да згоды,
Кроў па жылах павядзе хутчэй.

Ёй адной душу даверу й цела
У каторы, у каторы раз...
Я, паверце, аднаго хацела б,
Каб лячыўся ёю кожны з нас.

* * *

*Усеваладу ЖУКОЎСКАМУ, майстру па вырабу струнных інструментаў*

Звініць сярэбрам гук чароўны,
Пяе крыштальнай чысцінёй,
Плыве паволі, быццам чоўны
Па рэчцы-матухне сваёй.

То раптам птушкай узлятае
Туды, дзе мар links наткалі сны.
А потым сумам так кранае
Мінорны гук яго струны.

Адкуль жа ў струн шчымлівы голас,
Адкуль прыгожы мяккі гук!
Адтуль, дзе ўлетку кожны колас
Чакае шчырых добрых рук.

Дзе вербы кланяюцца росам,
Дзе танчаць кветкі на лугах...
Тут сэрца Майстра засталося,
Тут гукаў вытанчаны ўзмах.

Дык жа плыві, твой човен, лёгка,
Каб не змялела плынь жыцця,
Хай будзе шлях яго далёкім
І ў сэрцах мае свой працяг.

* * *

О музыкі
гаючае свята!
Вядзі душу,
аслепленую ад болю,
І загаі,
не дай хварэць ёй болей,
О музыкі
гаючае свята.
На крылах гукаў трапятких
Душа узносіцца
да Бога.
Не трэба слоў,
Не трэба больш нічога —
Каб паўтараўся толькі
гэты міг.
А сэрцы,
што прамерзлі навылёт,
Вы музыку не слухайце,
а чуйце...
О музыка!
З табою мой палёт
Па вечную
гармонію пачуццяў!

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ «ПЕРАКЛАДЗІ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ», ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 31

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 4. Свята. 8. Уражанне. 9. Дзіва. 10. Асвячэнне. 11. Смак. 12. Крама. 14. Зніч. 15. Артыкул. 18. Гай. 19. Усход. 21. Ліпень. 22. Натхненне. 23. Кісць. 25. Світанне. 29. Пэндзаль. 33. Кватэра. 34. Стома. 36. Садавіна. 37. Краса. 38. Пяшчота. 39. Пытанне.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Сустрэча. 2. Чаромха. 3. Зносіны. 5. Вячэра. 6. Адценне. 7. Хараство. 11. Сучаснік. 13. Сумленне. 16. Талент. 17. Жменя. 18. Гандаль. 20. Ахова. 24. Цямлівасць. 26. Агароджа. 27. Фэст. 28. Здымак. 30. Цвік. 31. Стос. 32. Суніцы. 34. Смага. 35. Кроп.

«Голас Радзімы»

Рэдактар Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1586.
Падпісана да друку 30.08.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.